На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№108 (1671)
Аўторак, 17 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +17...+19, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +15...+17, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +7...+9; у Віцебску ўдзень — +16...+18, кароткачасовы дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +19...+21, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +19...+21, уначы — +8...+10, кароткачасовы дождж.

*www.meteo.by*



СІТУАЦЫЯ

# Змаганне за ліцэй

*Як ужо паведамлялася, напрыканцы мінулага тыдня міністр адукацыі Беларусі Пётр Брыгадзін сустрэўся з кіраўніцтвам Беларускага гуманітарнага ліцэя, навучэнцамі і іх бацькамі*



Ці разлучаць Уладзіміра Коласа з ліцэістамі?

На шматлікія пытанні аб тым, чаму высокапастаўленыя чыноўнікі не хочуць бачыць на пасадзе дырэктара ліцэя **Уладзіміра Коласа**, міністр не адказаў. Але запэўніў, што свой загад аб прызначэнні новага дырэктара **Тамары Шчарбачэвіч** адмяняць не збіраецца.

Усе выкладчыкі Беларускага гуманітарнага ліцэя лічаць, што прызначэнне дырэктарам спадарыні Шчарбачэвіч было зроблена няўдала.

*"Гэта бачыць не толькі грамадскасць,* — гаворыць выкладчык **Лявон Баршчэўскі.** — *Для мяне не было б ніякай праблемы адразу пасля гэтага прызначэння напісаць заяву і сысці. Але бацькі і выкладчыкі казалі, што трэба пачакаць, прыняць экзамены. Я прыйшоў у ліцэй у каманду Коласа, з ім і сыду".*

Так гавораць і астатнія педагогі.

Бацькі прасілі міністра не перашкаджаць нармальнай працы ліцэя. Уважліва ўсіх выслухаўшы, міністр адукацыі сказаў, што, на яго погляд, прызначэнне дырэктара было зроблена асэнсавана. *"Ратацыя кадраў ідзе і будзе ісці. Няма вечных пасадаў,* — заявіў Брыгадзін. — *Вы пытаецеся, чаму раптам у ліцэі пачаліся праверкі? Гэтыя праверкі — працяг таго, што было раней, што мы пачыналі, але адкладвалі. Яны не маюць ніякага дачынення да іспытаў. Гэта праверка фінансава-гаспадарчай дзейнасці, ёю займаюцца два-тры чалавекі, а вы робіце з гэтага праблему, кажаце, што вам не даюць працаваць...*

*Мы будзем прымаць рашэнне, як далей будзе працаваць ліцэй. Ёсць розныя прапановы. Магчымая змена статусу ліцэя. Магчымы перавод ліцэя на новую пляцоўку, для таго каб зрабіць усе рамонтныя работы. Безумоўна, потым гэтая пляцоўка застанецца за ліцэем.*

*Тамара Георгіеўна будзе працаваць дырэктарам, будзе выпрацоўваць новыя падыходы, як далей развівацца ліцэю..."*

Адзін з навучэнцаў сказаў, што ён паступаў у ліцэй, дзе дырэктарам быў Колас. І калі дырэктарам будзе Тамара Шчарбачэвіч, ён у ліцэй не пойдзе, тады яму прыйдзецца ісці ў звычайную школу.

*"Пётр Іванавіч, я вам кажу абсалютна шчыра, я вам не пагражаю, але калі пайду ў звычайную школу, то не магу даць гарантыю, што на трэці дзень там не павешуся",* — сказаў ліцэіст.

Усміхнуўшыся, міністр сказаў: *"Восенню пойдзеш у ліцэй".*

Новы дырэктар ліцэя на гэтай сустрэчы паводзіла сябе даволі эмацыянальна.

*"Я не буду падаваць у суд, не буду скардзіцца, але скажу толькі адно: нельга так сябе паводзіць,* — сказала яна. — *Нельга так сябе паводзіць у адносінах да настаўніка, наогул — да жанчыны. Гэта мой боль...*

*Скажыце, калі ласка, настаўнікі беларускай мовы, я ў сераду наведвала нацыянальны наш беларускі музей імя Я.Коласа. Чаму за дзесяць гадоў ніводнага ліцэіста там не было?"*

Адзін з ліцэістаў адрэагаваў на яе словы ў момант: *"Я там быў".* У зале раздаліся гучны смех і апладысменты. Не звяртаючы увагі, Шчарбачэвіч працягвала:

*"Шаноўнае спадарства, я не прыйшла ва ўласны будынак. Я прыйшла ў дзяржаўную ўстанову працаваць на карысць нашых вучняў! Сумленна працаваць на карысць нашай Радзімы! Тыя праграмы, якія мы будзем прапаноўваць, якія мы будзем выконваць, яны зараз намі ўладкоўваюцца. Прыйдзе час, я буду весці з вамі размову і наконт гэтых праграм".*

Пасля сустрэчы ў актавай зале міністр за зачыненымі дзвярыма сустрэўся з кіраўніцтвам ліцэя.

*"Разумеючы ўсю далікатнасць сітуацыі, мы яшчэ раз папрасілі міністра перагледзець сваё рашэнне,* — расказвае **Уладзімір Колас.** — *Міністр сказаў, што калі такая пазіцыя ўсяго калектыву, то яны будуць думаць".*

Такім чынам, сітуацыя з лёсам Беларускага дзяржаўнага ліцэя дагэтуль не вырашана. Хаця ў мінулую пятніцу **Пётр Брыгадзін** заявіў, што з'явіўся ў ліцэй, каб нарэшце расставіць усе кропкі і прыняць канчатковае рашэнне...

**Марына КОКТЫШ.**

ПУЛЬС

## Юрий Ходыко — на тюремных нарах

Профессора Юрия Ходыко, по словам его сына Константина, схватили во дворе дома утром 16 июня 2003 года и отправили в приемник-распределитель. 65-летнего больного профессора водворили на 15 суток за решетку на основании заочного "приговора" (постановления) суда Советского района.

Вина Юрия Ходыко заключается в присутствии на неугодном властям митинге протеста, который проходил 12 марта 2003 года. Как видим, белорусские власти ничего не прощают: даже через три месяца отловили человека и посадили.

Административный кодекс Республики Беларусь (ч.2 ст.247) запрещает заочное осуждение по статье 167[1]. Однако данное обстоятельство Советский суд не остановило, и 12 мая с.г. судья Руслан Козодаев осуждает человека преклонного возраста к полумесячному лежанию на голых досках.

На тюремных нарах встретит через неделю Юрий Ходыко свой 65-летний юбилей. Такой вот судебно-милицейский подарок к праздничной дате известного белорусского физика преподнесли наши правоохранительные органы.

**Валерий ЩУКИН.**

## Либерал-демократы обеспокоены положением независимых изданий

14 июня 2003 года в Витебске состоялась партийная конференция Либерально-демократической партии, в работе которой приняли участие руководители региональных организаций ЛДП.

Одним из вопросов, рассмотренных на конференции, было положение независимых средств массовой информации в Республике Беларусь.

Участники конференции приняли решение о необходимости поддержать независимые СМИ во время подписной кампании. Особо подчеркивалось значение единственной ежедневной республиканской общественно-политической газеты "Народная воля" как альтернативного источника информации, никогда не отступавшего от своего принципа — всестороннего и объективного освещения положения дел в нашей стране.

**А.КУРС, секретарь Высшего Совета ЛДП, заместитель председателя ЛДП.**

## Візы ў Польшчу — з 1 кастрычніка 2003 года

Польшча перанесла тэрмін увядзення візавага рэжыму з Беларуссю, Расіяй і Украінай на 1 кастрычніка 2003 года.

Нагадаем, што раней Польшча планавала ўвесці візавы рэжым з 1 ліпеня бягучага года.

Як патлумачылі ў прэс-службе польскага МЗС, рашэнне аб пераносе звязана з негатоўнасцю консульскіх служб Беларусі, Расіі і Украіны да ўвядзення візавага рэжыму, а таксама ў сувязі з гэтым неабходнасці ўдасканалення прававой базы. Плануецца, што да 1 кастрычніка Польшча прадоўжыць дагавор з Беларуссю аб бязвізавых паездках грамадзян.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## 67 працэнтаў жыхароў Беларусі выказаліся за смяротнае пакаранне

67 працэнтаў жыхароў Беларусі выступаюць за захаванне смяротнага пакарання, 19 працэнтаў — за яго адмену і 14 працэнтаў не могуць вызначыць свайго стаўлення да гэтага.

Такія звесткі былі атрыманы ў выніку агульнанацыянальнага апытання, праведзенага ў снежні 2002 года супрацоўнікамі Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. На пытанні анкеты адказалі больш за 1.100 рэспандэнтаў ва ўзросце ад 16 гадоў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

СПОРТ

## *Яніна КАРОЛЬЧЫК:* «Трэніроўкі, трэніроўкі — ніякага асабістага жыцця»

*На асабістае жыццё ў Алімпійскай чэмпіёнкі па штурханні ядра Яніны Карольчык катастрафічна не хапае часу.*



Зараз Яніна Карольчык працягвае падрыхтоўку да чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы, які пройдзе ў французскай сталіцы.

У межах падрыхтоўкі да чэмпіянату свету спартсменка прыняла ўдзел у турніры, які праходзіў у нямецкім Дортмундзе.

Для трэніровак Алімпійскай чэмпіёнцы створаны ўсе ўмовы. Зала Спартыўнага клуба арміі, што размяшчаецца ў мінскім мікраараёне Уручча, зараз на рамонце. Але трэнер Яніны Карольчык **Аляксандр Яфімаў** адстаяў права спартсменкі трэніравацца ва Уруччы. Разам з Янай трэніруецца яшчэ адна спартсменка — гэта **Надзея Астапчук.**

Як прызнаецца сама Яна, з-за трэніровак не хапае часу ні на што. ***"З-за вельмі напружанага графіка не магу скончыць рамонт уласнай кватэры, так што з наваселлем прыйдзецца яшчэ пачакаць"***, — гаворыць яна.

Дагэтуль Яніна яшчэ не папоўніла шэрагі аўтааматараў. Алімпійская чэмпіёнка пакуль не выбрала сабе машыну.

У асабістым жыцці чэмпіёнкі Сіднея-2002 па-ранейшаму без змяненняў. ***"Трэніроўкі, трэніроўкі і ніякага асабістага жыцця"***, — гаворыць спартсменка.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Максім Мірны — у паўфінале парнага разраду



Беларус Максім Мірны і індыец Махеш Бхупаці выйшлі ў паўфінал парнага разраду тэніснага турніру ў Лондане "Стэла Артуа" з прызавым фондам 800 тыс. еўра. Вечарам 13 чэрвеня ў 1/4 фіналу "пасеяны" пад другім нумарам беларуска-індыйскі дуэт выйграў у аўстралійцаў Уэйна Арчэрса і Пола Хэнлі (№ 6) — 6:3, 7:6 (11:9).

Цяпер М.Мірны і М.Бхупаці сустрэнуцца з бельгійцам Ксаўе Малісам і бразільцам Андрэ Са, якія выйгралі ў другой аўстралійскай пары Лейтан Х'юіт / Марк Філіпусіс — 2:6, 7:5, 7:6 (7:2).

Варта адзначыць, што летась М.Мірны і М.Бхупаці дайшлі да фіналу гэтага турніру.

## Зборная Беларусі па гандболе згуляла ўнічыю з чэмпіёнамі свету

Адзін з найлепшых матчаў у сваёй гісторыі правяла 14 чэрвеня мужчынская зборная Беларусі па гандболе. У першым матчы плэй-оф адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы 2004 года выхаванцы Спартака Міравіча згулялі ў Мінску ўнічыю — 32:32 з чэмпіёнам свету камандай Харватыі.

Прайграючы па ходзе сустрэчы 5-7 мячоў, беларускія гандбалісты дагналі сапернікаў і амаль не атрымалі перамогу. Развіццё гульні: 0:1, 1:1, 1:4 (7-я хвіліна), 2:5, 4:5, 4:7, 7:10 (18-я), 7:14 (26-я), 9:15 (вынік першага тайма), 12:17, 15:20, 17:20, 19:24 (44-я), 23:24 (48-я), 25:25 (50-я), 28:28 (54-я), 30:28 (56-я), 30:30, 31:31, 31:32, 32:32.

У складзе зборнай Беларусі мячы закідвалі: Сяргей Гарбок — 12 мячоў, Вадзім Лісіца — 7 (1 з пенальці), Аляксей Усік — 4, Іван Броўка, Уладзімір Клімавец — па 3, Максім Каршакевіч — 2 і Міхаіл Няжура — 1. У харватаў больш за ўсіх мячоў закінулі Слаўка Галужа і Нікша Калеб — па 6.

Пасля заканчэння сустрэчы С.Міранович не хаваў задавальнення. "У першым тайме было апрабаванне, а ў другім тайме мы ўжо ведалі, як гуляюць харваты, далі пэўныя ўстаноўкі па дзеяннях у абароне і нападзенні, хлопцы сталі гуляць больш раскавана. Такі вынік — гэта вельмі пачэсна. Калі б суддзі не баяліся харватаў, не баяліся сенсацыі, сапернік прайграў бы пару мячоў. Зусім можна было абысціся без выдалення нашага хлопца за некалькі хвілін да канца гульні", — сказаў у інтэрв'ю БелаПАН С.Міранович.

Паўторны матч адбудзецца 21 чэрвеня ў Харватыі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

*(Працяг спартыўнай тэмы — на 4-й стар.)*

ДЫЯГНАЗ

# Атыпічная эканоміка

*Зыходзячы з прагнозу еўрапейскіх экспертаў, надастойнае жыццё беларусы могуць спадзявацца гадоў праз трыццаць*

Запазычанасць па зарплаце напамінае нейкую загадкавую хваробу накшталт атыпічнай пнеўманіі. Яе рэгіструюць, аб ёй паведамляюць, але нічога з ёю зрабіць не могуць.

Пастаянна то з аднаго, то з другога рэгіёна краіны паступаюць весткі аб затрымках заробкаў. Днямі прыйшло паведамленне аб незадаволенасці настаўнікаў Магілёўшчыны, якім збіраюцца замарозіць выплату грошай на адпачынак. Чыноўнікі шукаюць выйсце, каб выдаць напачатку хоць бы частку налічанай сумы.

Не могуць пагасіць запазычанасць па зарплаце кіраўнікі Магілёўскага металургічнага завода, Віцебскага станкабудаўнічага, соцень сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Пра заробкавую хваробу пачалі гаварыць спецыялісты Навукова-даследчага інстытута працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. СМІ паведамляюць, што загадчыца аналітычным цэнтрам гэтай установы Святлана Шаўчэнка заявіла: запазычанасць па зарплаце ўжо набыла хранічны характар і стала хваробай не толькі аграпрамысловага комплексу, але і іншых галін.

Больш таго, хвароба прагрэсіруе. Калі раней выдача заробкаў затрымліваліся на два-тры месяцы, дык сёлета ў некаторых арганізацыях не выдавалі грошай шэсць-восем месяцаў, паведамляе сайт www.praca.by.

Якія ж прычыны? Спецыялісты называюць дзве. Першая — несвоечасовыя разлікі спажыўцоў з пастаўшчыкамі. І другая — затаварванне прадукцыі на складах, цяжкасці са збытам беларускай прадукцыі.

Яно так. Але, думаецца, пералічаныя прычыны не асноўныя, яны толькі сігналізуюць аб больш глыбінных і важных.

Чаму не прадаецца прадукцыя? Бо яна дарагая і высокай якасцю не вылучаецца. А гэта ж ад таго, што не ўкараняюцца сучасныя прагрэсіўныя тэхналогіі.

Чаму спажыўцы не плацяць своечасова грошы за прадукцыю? Бо не могуць яе аператыўна рэалізаваць, паколькі грамадзяне і суб'екты гаспадарання не маюць у дастатковай колькасці грошай.

Словам, запазычанасць па зарплаце, як і праца на склад — сімптомы вельмі цяжкай эканамічнай хваробы, якая напаткала нашу краіну. Таму даўно пара пачаць лячэнне гэтай хваробы. А яе лечаць толькі рынкавыя адносіны.

Нельга не закрануць яшчэ адзін аспект, звязаны з зарплатай — гэта надта вялікая дыспрапорцыя ў аплаце працы. Так, працаўнік сельскай гаспадаркі Гомельшчыны, напрыклад, атрымлівае прыкладна 90 тысяч рублёў у месяц, а рабочы прамысловасці — 230. Больш таго, працаўнікі нафтаперапрацоўчай галіны маюць у сярэднім 700 тысяч рублёў, энергетыкі — 400 тысяч. А вось работніцы швейнага цэха Аршанскага прадпрыемства бытавога абслугоўвання зарабляюць ад 26 да 40 тысяч рублёў.

Вядома, размова не ідзе пра ўраўнілаўку. Але ці такая павінна быць дыспрапорцыя: 26 тысяч і 700 тысяч? Чаму працаўнікі палёў і ферм маюць толькі 90 тысяч, а энергетыкі — 400 тысяч, нафтаперапрацоўшчыкі — 700 тысяч? Няўжо даяркі і трактарысты працуюць намнога меней ці іх прадукцыя нам не вельмі патрэбна? А можа, энергетыкі, за кошт узвінчвання тарыфаў, як гэта рабілі камунальшчыкі, дабіліся такога выніку?

Падобная дыспрапорцыя — гэта таксама праяўленне той самай эканамічнай атыпічнай хваробы.

У цэлым жа ўсе праблемы Беларусі — у яе моцнай эканамічнай прывязцы да Расіі. У нас адбываюцца тыя ж працэсы, што і ва ўсходняй суседкі, толькі са спазненнем. Успомнім, як шахцёры грукалі каскамі ля Дома ўрада Расіі, выбіваючы сваю зарплату, як настаўнікі, працаўнікі іншых галін перакрывалі чыгункі і шасейныя дарогі і толькі такім макарам дамагаліся грошай. Мы цяпер, відавочна, на падходзе да такіх жа цяжкасцей з атрыманнем заробкаў.

Тым больш, пасля ўвядзення расійскага рубля. Адсюль змрочны прагноз і на будучыню.

Нядаўна *Deutsche Bank* правёў аналіз і паспрабаваў зазірнуць у перспектыву расійскай эканомікі. Прагноз атрымаўся даволі сумным. Ён мае загаловак: "Мядзведзь рухаецца павольна". Спецыялісты Германіі лічаць, што толькі гадоў праз 8—10 Расія дасягне сённяшняга ўзроўню Польшчы і праз 25 гадоў — Партугаліі. А ў краіне ж за Бугам пакуль не вельмі салодкае жыццё, ды і Партугалія тужыцца падцягнуцца да ўзроўню лепшых еўрапейскіх краін.

Такім чынам, Расія зможа наладзіць больш-менш дастойнае жыццё толькі праз чвэрць стагоддзя. А паколькі Беларусь моцна прывязана да яе і да таго ж усе працэсы ў нас ідуць павольней, то на лепшае жыццё можна спадзявацца гадоў праз трыццаць. І то пры ўмове, што ніхто не перашкодзіць пачатаму працэсу рэформ. Нашыя ж суседзі, Літва, Польшча, Латвія мяркуюць ужо праз дзесяць гадоў жыць па-еўрапейску.

Вось такі дыягназ атрымліваецца. Так што атрымліваць зарплату без затрымак у Беларусі не хутка будуць.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Падпісацца на «Народную волю» можна па льготным кошце і не выходзячы з дому

**Шаноўныя сябры!**

**Рэдакцыя газеты "Народная воля" наладзіла новую форму падпіскі на наша выданне ў Мінску і Баранавічах.**

Сутнасць яе ў тым, што падпіска афармляецца грамадскім паштальёнам непасрэдна на месцы пражывання чытачоў. Дастаўляцца газета будзе таксама гэтым жа паштальёнам вечарам напярэдадні выхаду газеты альбо раніцай.

Такім чынам, у вас з'явіцца магчымасць атрымліваць самыя свежыя навіны раней за іншых падпісчыкаў. А каштаваць такая падпіска будзе танней чым звычайная, якая афармляецца праз паштовыя аддзяленні сувязі і пункты "Белсаюздруку".

Калі Вам, мінчане, зручней атрымліваць газету непасрэдна ў рэдакцыі, то гэта таксама магчыма. Прыходзьце, калі ласка. Будзем Вам рады.

Для ажыццяўлення гэтага праекта рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва тых, хто мае патрэбу ў дадатковых заробках. У яго рэалізацыі могуць удзельнічаць нават цэлыя сем'і. Такую ж прапанову робім пенсіянерам, студэнтам, хатнім гаспадыням, якія жадаюць зарабіць пэўныя сродкі пры частковай занятасці. Па пытаннях супрацоўніцтва і афармлення падпіскі звязвайцеся па тэлефонах:

**у Мінску — 206-66-09, 206-68-71; у Баранавічах — (8-0163) 41-24-61, (8-0163) 45-54-80.**

Будзьма разам!

## Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі.

ПРОСЬБА РЕДАКЦИИ

# Помогите бедным...

Как ни печально, мы вынуждены об этом сообщить второй раз. Действительно, нет того дня, чтобы в редакцию не позвонили и не попросили: "Помогите подписаться на "Народную волю"...". Эти слова мы слышим от бывших малолетних узников, испытывающих ныне большие финансовые трудности, от людей, ставших по воле судьбы инвалидами и, понятно, еле-еле сводящих концы с концами, от пенсионеров с минимальной пенсией, от тех, у кого большие семьи, а доходы мизерные... Да мало ли сегодня людей, бюджет которых не позволяет выделить несколько тысяч рублей на подписку на любимую газету.

Но мы знаем: многие и сами живут неплохо, и другим могут помочь. **Именно к Вам, людям состоятельным, и обращается редакция. Проявите сочувствие к тем, кто рядом с Вами, но нуждается в поддержке.** Это могут быть Ваши родственники, это могут быть ваши соседи, это могут быть ваши сослуживцы, приятели... Для Вас это — движение души, а для них — каждый день глоток свежего воздуха. Правдивая информация — это духовный кислород, без которого человек не может нормально жить.

**Мы обращаемся к руководителям фирм, предприятий.** У Вас много хороших людей, которые заслужили подарка. Оформите им подписку на "Народную волю" — чем не подарок?

**Помогите тем, кто в Вашей помощи нуждается, — Бог воздаст Вам по заслугам.**

С надеждой на взаимопонимание —

**РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ".**

***P.S.:***

*Когда мы напечатали это обращение в первый раз, раздалось несколько телефонных звонков с одной просьбой: "А вы опубликуйте расчетный счет редакции, на который любой человек мог бы перечислить энную сумму в качестве пожертвований для тех, кто не имеет возможности подписаться на "Народную волю".*

*Охотно выполняем просьбу, обещая, что все благотворительные средства будут использованы для оформления подписки тем, кто очень хочет читать "Народную волю", но из-за крайней бедности не может оформить подписку. Вот реквизиты:*

***УП «Народная воля»***
***Р/с №3012207630018 филиал 0113 "Приорбанк" ОАО г.Минск, код 726***
***УНН 100961759***
***ОКПО 37381505***

*(В назначении платежа не забудьте сделать пометку "На благотворительную подписку")*

«БЕЛОРУСЫ МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ»*
Хроники Анатолия КОЗЛОВИЧА

# 42. Настоящий мужчина

## Автомобильная авария

Рано поутру у дома тракториста Степана Степановича Ковальчука из деревни Клинец скрипнула тормозами белая “Нива” председателя колхоза “Восход”. Степан узнал скрип и вышел на улицу, к калитке, где его ждал председатель, уверенный, что Степан услышит, узнает, выйдет.

Председатель протянул руку: “Надо на станцию, Степан”. — “А что пришло?” — спросил Степан. “Вагон суперфосфата. Надо сегодня вывезти. А то ограбят штрафом. Садись, подброшу к трактору”. — “Валя, я поехал!” — крикнул Степан жене в хату, сел в председательскую машину и уехал. Оба вроде и не помнили, что сегодня воскресенье.

Через час колонна колхозных “Беларусов” с прицепами подъезжала к железнодорожной станции, находившейся в тридцати километрах от хозяйства. Первым, как повелось в аналогичных трудовых ситуациях, ехал Степан Степанович. Сообщу также, что ему было 62 года. Мужик он был крепкий, этакий седой мощный дед. Дед — и была его менушка.

У закрытого переезда застыла вереница транспорта. Приближаясь, Степан Степанович почувствовал, как забилось сердце. Вереницу машин замыкал зеленый “жигуленок”, третья модель. “Моя троечка!” — Степан Степанович произнес это вслух, скорее — простонал помимо воли. Вслушиваясь в толчки сердца, поставил трактор сзади очереди, чуть-чуть сбоку, чтобы видеть нежный силуэт “жигуленка”, все его женственные линии и формы, которые он готов был ласкать мужским взглядом бесконечно, гладить ладонями нежно. Настоящий мужчина воспринимает машину, как женщину.

В легковушке, видел Степан Степанович из своего трактора, сидели мужчина (за рулем) и женщина (справа от водителя). Женские колени были доверчиво оголены, и когда на них легла мужская рука с массивным перстнем в виде наковальни на безымянном пальце, у Степана Степановича вырвался тот же стон: “Моя троечка!”

Он узнал перстень. Он знал, кто за рулем зеленого “жигуленка”. Его “жигуленка”!..

Свидетели утверждали: если бы не прицеп, помешавший трактору взять с места большую скорость, легковушка была бы раздавлена. Степан Степанович своим трактором смял у “жигуля” багажник, отбросив машину вперед, под стоящий грузовик, тем самым смяв капот. Не довольствуясь одним ударом, Степан Степанович включил заднюю передачу, чуток отъехал для разгона (больше отъехать не дал прицеп), ударил “жигуленка” сзади, сбоку, выбив его из-под грузовика.

Свидетели рассказывали: когда деда силой вытащили из кабины “Беларуси”, первое, что он сказал, было: “Вот и вся гражданская война”.

## 1970. Рождение мечты

В 1970 году моему герою было 40. Семья жила в маленьком доме умерших родителей. Старшей дочери было 15 лет, средней — 14, младшей — 8. Зарплата у Степана была 90 рублей. Жена работала в полеводстве, летом у нее выходило до 40, зимой не было ничего. В хозяйстве держали одну корову, двух свиней, десять кур, собаку, кота.

И родилась у мужчины мечта: купить “Жигули”. Их тогда начал выпускать завод, построенный в СССР итальянцами. Мечта была, как говорят, голубая, а “Жигули” виделись ему непременно зелеными. Третья модель, “ВАЗ-2103". 6.000 рублей. Сумма немыслимая, но возможная. Если каждый год продавать по одному кабанчику, если ежегодного теленочка подрастить до осени и тоже продать, если не покупать всякую ерунду дочкам, если сэкономить на одежде себе и жене, то лет через пять-шесть можно собрать 6.000. Настоящий мужчина должен быть на машине. Собственный автомобиль — это концентрация всех лучших качеств мужчины: воли, независимости, ответственности.

Степан отнес в контору колхоза заявление. В 1970 году желающих купить автомобиль в “Восходе” не было. “Ты — первый, — сказал председатель. — Как только райисполком выделит колхозу машину, она твоя. А деньги есть?” — “Соберу, — уверенно ответил Степан, — только вы никому не говорите пока про заявление”.

И начал он собирать деньги на машину.

Существенно затормозила процесс старшая дочка. Поступив в институт, она через два месяца вернулась домой и заявила, что в Минск в обносках больше не поедет. Пришлось снимать со сберкнижки и одевать старшую.

Затем такой же фортель выкинула средняя. Слава богу, младшая ничего не требовала, донашивая то, что оставалось от сестер.

Если бы не дочки, то через шесть лет было бы собрано как раз шесть тысяч рублей. По одной тысяче в год. Больше не набиралось, хоть разорвись, хоть положи зубы на полку, хоть без штанов ходи. Настоящего мужчину невозможность хорошо зарабатывать сводит с ума, поэтому настоящие мужчины, если они бедны, — или спиваются, или делаются деспотами в семье. Я не идеализирую своего героя и не скрываю: с ним приключился второй вариант, деспотичный. Процесс накопления денег на автомобиль сопровождался слезами жены и дочерей, которым приходилось с боем и скандалом вырывать у Степана Степановича самое необходимое.



Досаду Степана Степановича смягчало то, что за шесть лет в колхоз из райисполкома не поступило бумаг о легковушке.

За это время он построил в саду кирпичный гараж со смотровой ямой, подъемником, железной дверью. Не потратив ни рубля. Кирпич добывал на бывшей панской усадьбе, разламывая ломом фундаменты. Ну, а железа в колхозе валялось сколько хочешь. Строительство гаража от односельчан не утаишь, об автомобильной мечте Степана узнали все. Деревенские мужчины зло подтрунивали над Степаном, когда он уклонялся от выпивок за свой счет. За чужой счет — не уклонялся. Мужчина, декларирующий стопроцентную трезвенность, вызывает подозрение, следовательно, не может считаться настоящим.

Где бы ни ехал Степан Степанович — по проселку, по шоссе — всматривался во встречные и попутные “Жигули”, узнавая СВОЮ МАШИНУ по форме бампера, по сверкающим молдингам, по стремительному рисунку крыльев. И каждый раз, встретив ЕЕ, он провожал ЕЕ радостно-грустным взглядом до самого горизонта либо поворота и говорил вслух своему грохочущему трактору: “Моя троечка полетела!”.

## 1980.Первое пришествие

О знаменательном событии знал весь колхоз: из райисполкома спустилась бумага, Степану Ковальчуку выделен “Жигуль”.

У Степана не хватало 450 рублей. Он кинулся к брату: одолжи! Брат помялся, но не отказал. Степан съездил в райцентр, в сберкассу, выписал расчетный чек, вернулся домой. Завтра утром — на областную базу, где его ждет мечта.

Всю ночь они с женой не спали. Говорили о том, куда и зачем будут ездить на своей “троечке”, как будет смотреть на них, в легковушке сидящих, родная деревня, имеющая лишь мотоциклы и велосипеды. Чем больше говорили и думали, тем больше страдали.

Они представили себя в роскошной машине наяву. Из ее окошка они вдруг отчетливо увидели и свою собственную бедность, и бедность односельчан. “Как я туда в подвязанных галошах сяду, Степа?” — спрашивала жена Валентина. А Степан думал над ее вопросом. Настоящий мужчина никогда не оттолкнет не только женское тело, но и женскую мысль.

Их мечта завтра должна была появиться во дворе. Их совместная мечта. Потому что настоящий мужчина всегда увлекает за собой женщину, и они делаются во всех делах и грехах воедино. И им той бессонной ночью стало стыдно. Стыдно, что у них есть машина, а ни у кого в деревне машины нет. Раз у других нет, раз жизнь наша такая, то и нам не нужна эта машина. Они в нее не смогут сесть. Пусть кто-нибудь купит машину первым, а они, Ковальчуки, Степан и Валентина, купят вторыми. Это было их совместное решение, которое свидетельствует, что Степан Степанович был в душе не деспот и не скупердяй, а чувствующий мужчина, совестливый мужчина. Настоящий.

## 1990. Второе пришествие

Через пять лет, в 1985-м, в деревне Клинец появился первый легковой автомобиль “Москвич”. Его купил ровесник Степана Ковальчука, тоже тракторист. Материальные и душевные перипетии, связанные с той покупкой, мне неизвестны. Я хорошо знаю только Степана.

В 1990 году, в сентябре, Степану Степановичу исполнилось 60 лет. Будто специально к его юбилею в колхоз пришла из райисполкома бумага о том, что на хозяйство распределен автомобиль “ВАЗ-2103", который решением трудового коллектива необходимо выделить лучшему из лучших тружеников. Выбор пал на Ковальчука. Во-первых, он был лучший, во-вторых, больше никто не хотел покупать машину.

На областной торговой базе, куда Степан Степанович прибыл с чеком на 9.000 рублей и с выпиской из решения правления колхоза о выделении ему “ВАЗ-2103", порылись в документах и сообщили, что тот ”ВАЗ-2103" уже продан жителю их района.

Таким жителем оказался первый секретарь райкома КПБ. Личный автомобиль ему понадобился для выполнения служебных обязанностей в неслужебное время. Так разъяснили недоразумение в райисполкоме. Первую же легковушку, выделяемую областью району, пообещали Степану Степановичу. Он заслуживает. Отдал сельскому хозяйству всю жизнь. Депутат сельсовета.

Тогда же в районе освободилось место депутата Верховного Совета республики. Претендовали на него двое — секретарь райкома и директор средней школы. Кандидаты боролись, искали компромат друг на друга. Директор школы приехал к Степану Степановичу, попросил выступить на предвыборной встрече кандидатов с избирателями в районном Дворце культуры. “О чем выступать?” — спросил Степан Степанович. “Расскажите, как у вас, рядового труженика, секретарь райкома отобрал вашу мечту — автомобиль.”

Директор школы годился ему в сыновья, был так прилипчив, что Степан Степанович не смог отказать. Выступил. Рассказал, как получилось с той “троечкой”.

Через полгода бывший школьный директор, народный депутат, давал в загородном доме рыбака банкет по случаю своего вступления в должность председателя райисполкома. Степана он не забыл, пригласил. На банкете председатель-демократ подошел к Степану с рюмкой коньяка, сказал, что помнит его принципиальное выступление перед избирателями и что двери его кабинета для Степана Степановича всегда открыты. Председатель был пьян, покачивался, коньяк проливался на большой золотой перстень, напоминающий кузнечную наковальню.

## 1991. Третье пришествие

Известие о повышении цен на легковые автомобили повергло Степана Степановича в тоску. Его жизнь, понял он, навсегда отстала от его мечты. Не догнать. Никогда. Пятнадцать тысяч рублей не собрать. Дочки пошли замуж, тратиться на них не надо, а денег — не собрать. Внуков, которых нарожали дочки, на своей “троечке” не покатать. Жену по-человечески отвезти в районную поликлинику не удастся. НИКОГДА, дед Степан, не быть тебе настоящим мужчиной.

Председатель колхоза, как мужчина на колесах понимавший Степана, пообещал пять тысяч беспроцентной ссуды. “Не успею отдать, — сказал Степан Степанович, — помру. Придется детям платить. Срам!” — “Как помрешь, так долг спишем”, — пообещал председатель.

Машину выделили колхозу в конце 1991 года. Итак, последний шанс, Степан. Ходили слухи, что в 1992 году машины подорожают еще в десять раз.

1991 год вошел в историю агонизирующего СССР как год ВЕЛИКОГО БЕССТЫДНОГО ХАПАНЬЯ АВТОМОБИЛЕЙ БОЛЬШИМИ И МАЛЕНЬКИМИ НАЧАЛЬНИКАМИ. “Троечку”, предназначенную Степану, хапнул (на имя жены) народный депутат, председатель райисполкома с золотой наковальней на безымянном пальце.

## Народный суд

На суд истец лично не явился. В аварии ему повредило лицо. Как нашкодивший кот, старался не показываться людям, потому что в зеленой “троечке”, покореженной Степановым трактором, обнаружилась его любовница. Ей тоже кое-что повредило. Адвокат истца требовал у ответчика Ковальчука возместить стоимость разбитого автомобиля в современных ценах. Примерно 160.000 рублей. Кроме астрономический суммы, Степану Степановичу грозил срок за умышленные телесные повреждения.

Защитникам Ковальчука удалось сбить сумму ущерба до 15 тысяч, то есть до реальных затрат истца. Когда истец заявил об отказе от автомобиля, Степан попросил суд передать машину ему. За те же 15 тысяч. Суд просьбу удовлетворил. Таким образом Степан Степанович получил свою мечту в виде металлолома.

Суд признал, что преступление совершено Ковальчуком в состоянии аффекта, “вызванном сильным одномоментным переживанием в связи с крушением жизненных установок и появлением в поле зрения воображаемого конкретного виновника жизненной неудачи”.

Госавтоинспекция отобрала у Степана Степановича права тракториста и права шофера. Тут пошел на защиту председатель колхоза, которому нужны были трактористы при правах. А права шофера помогал Степану Степановичу выколачивать у самоуверенной ГАИ представитель прессы. Это был автор. Тогда я познакомился со своим героем.

## Четвертое пришествие

Свою мечту Степан Степанович не купил, а сотворил собственными руками. На это способен лишь настоящий мужчина.

Разбитый автомобиль Ковальчук заново делал в своем гараже три года. Никто ему не помогал. Он сделал невозможное — “троечка” получилась зеленой, сверкающей. Настоящей машиной. Как только Степан первый раз проехал на ней по улице, где уже положили асфальт на чернобыльские деньги, так деревня переиначила его менушку: АВТОДЕД.

Не буду рассказывать о чувствах Степана Степановича, испытываемых им за рулем собственного автомобиля. Я о них не знаю. Он не говорил. Разве может настоящий мужчина болтать о самом сокровенном, приятном и желанном? Вы встречали мужчин, рассказывающих о том, как они обладают любимой женщиной? Я встречал. Но это — сволочи.

Обладание машиной — интимное чувство, истинно мужское. Оно трансформируется в ЧУВСТВО ПОЛНОЦЕННОСТИ. Наверное, так и у женщин-автолюбительниц. Они сливаются с машиной, чувствуют машину, побеждают свою холодность, делаются раскованными женщинами. То есть опять-таки надо говорить о чувстве полноценности.

Собственный автомобиль — сильнейший психологический катализатор. Человек, покоряющий пространство и время, — это прежде всего уверенный в себе человек. Он ставит перед собой цель, добивается ее. Он обладает собственным достоинством.

Семь десятилетий советское государство сдерживало желание мужчин и женщин слиться с собственным автомобилем. Вы задумывались, почему? Чтобы унизить человека. Чтобы он ездил только в общественном транспорте, теряя индивидуальность. Чтобы не избрал свой путь и свою скорость. Чтобы, не дай Бог, не возмечтал заменить колеса крыльями и не улетел куда-нибудь, где хорошая зарплата, где не надо экономить на еде, чтобы выжить, где нет давки в трамвае и засад ГАИ на дороге.

Что сделали наши мужчины, как только развалилась человеконенавистническая антиавтомобильная система? Кинулись зарабатывать на собственную машину. Мужчины дождались своего часа. 1990-1995 — счастливые годы постсоветских мужчин. Можно было съездить за рубеж, пригнать дешевую иномарку. Стать настоящим мужчиной.

Что делают наши власти, озаботившиеся тем, как эффективнее загнать нас обратно в стойло? В числе первоочередных мер ставят преграды массовой автомобилизации. Чинят железный занавес на границе, выдумывают сложнейшие правила, увеличивают таможенные сборы. Они боятся человека за рулем собственного автомобиля. У такого человека появились не только права шофера, но и права человека. Он сделался суверенным и самоуверенным. Это нежелательно. Он может зарулить не туда, куда надо власти.

Степан Степанович Ковальчук сел за руль собственной машины в 65 лет.

## 1998. «Жигули» — на высоте

25 марта 1998 года Степан Степанович Ковальчук скончался.

На похороны съехались дочки, зятья, внуки. Двор был забит “бэушными” иномарками. В кирпичном сарае сиротливо стояли зеленые “Жигули”. Думаю, что машина плакала. Если человек так чувствует машину, то она должна чувствовать человека. Скорбеть, когда он умер.

После похорон семья пришла к гаражу. Открыли ворота. Смотрели на плачущую машину, плакали вместе с ней. Все знали о мечте своего АВТОДЕДА.

Вдруг внук говорит: “Давайте поставим машину деда, как танк.” — “Как это?” — спросила его мама. “На вышину”. — “На постамент, что ли?” — “На вышину”, — повторил внук. “А что, идея! — воскликнул зять. — Нам эта жестянка не нужна. Пусть стоит во дворе, как танк”.

Верно, внучек! “Жигули” — танк деда Степана. На нем он ковал победу человеческого достоинства.

## 2003. «Жигули» — на похороны

Никогда не ставлю в своих хрониках окончательную точку. Меня тянет к людям, с которыми свела судьба.

Будучи в районе, завернул в деревню Клинец. Сердце мое билось в волнении: я ждал увидеть “Жигули” на постаменте.

Открыв знакомую калитку Ковальчуков, я вглядывался в сад, искал памятник автодеду. Ничего не было видно, кроме позеленевшего забора, некрашеного сарая, неухоженных яблонь.

В доме меня встретила бабка Валентина. С болью я увидел на старушке те же резиновые галоши, подвязанные веревочками. Бабка сообщила, что очень хочет помереть. А чтобы не вводить детей в расходы на гроб и поминки, она решила продать машину покойного мужа. Дети дали объявление в газету. Быстро нашлись покупатели. Заплатили за машину двести долларов, сели в зеленые “Жигули” — и уехали. Так у бабки Валентины появилась последняя в жизни радость: деньги на похороны!

** Одноименная книга только что увидела свет. Читатели-друзья, приходите к автору за автографом!*

ПУЛЬС

## Будучыня Палесся — традыцыйныя формы гаспадарання

Будучыню Палесся навукоўцы бачаць у вяртанні жыхароў рэгіёна да традыцыйных формаў гаспадарання. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў загадчык лабараторыі “Экалогія ландшафтаў” Беларускага дзяржаўнага універсітэта, віцэ-прэзідэнт Беларускага геаграфічнага таварыства Валянцін Яцухна.

“У гэтым рэгіёне дамінуе сельскагаспадарчае выкарыстанне тэрыторый. Аднак з-за сваіх прыродных і культурна-гістарычных традыцый Палессе павінна насіць прыродаахоўную, рэкрэацыйную, гісторыка-культурную функцыю. А аграрны сектар павінен уключаць такія традыцыйныя віды прыродакарыстання, як бортніцтва, збор лекавых траў, развіццё жывёлагадоўлі, палявання і рыбалоўства, а таксама старажытных, часам забытых нацыянальных відаў рамёстваў і промыслаў”, — адзначыў навуковец.

Паводле яго слоў, заходнія спецыялісты падтрымліваюць гэтую ідэю. “Мы спадзяёмся і на міжнароднае фінансаванне гэтага праекта, бо краіна не мае неабходных сродкаў, тым больш, што Палессе бачыцца як экалагічны рэгіён, які мае не толькі нацыянальнае, але і сусветнае значэнне. Гэта адзіны рэгіён Еўропы, які больш ці менш захаваў у натуральным стане рачныя даліны і абалонкі вадаёмаў”, — адзначыў В.Яцухна.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Касіры Лунінецкага філіяла «Беларусбанка» падазраюцца ў крадзяжы чэкаў «Жыллё»

Трое супрацоўніц аддзялення № 8 Лунінецкага філіяла № 119 ААБ “Беларусбанк” падазраюцца ў крадзяжы 110 чэкаў “Жыллё”.

Як устанавілі падчас праверкі супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Лунінецкага РАУС, жанчыны — старшы кантралёр-касір, кантралёр-касір і касір — яшчэ ў 2002 годзе па папярэдняй змове, шляхам вырабу загадзя лжывых заяў на пераафармленне чэкаў “Жыллё” і папярэдняга складання падложных рэестраў выкралі 110 чэкаў.

З улікам індэксацыі росту кошту жылля для індэксацыі жыллёвай квоты ўрон склаў больш як 85 мільёнаў рублёў.

## Махляры вымагалі грошы за інфармацыю аб выкрадзеным аўтамабілі

Супрацоўнікамі аддзела крымінальнага вышуку Ленінскага РАУС Брэста затрыманы двое 19-гадовых брэстаўчан — навучэнец Высокаўскага прафесійна-тэхнічнага каледжа і медсястра паліклінікі №1, якія падазраюцца ў махлярстве.

З газетнай аб’явы хлопец і дзяўчына даведаліся аб тым, што яшчэ на пачатку мая ад цэнтральнага ўваходу ў мемарыяльны комплекс “Брэсцкая крэпасць-герой” быў выкрадзены аўтамабіль “Аўдзі-100". Яны патэлефанавалі па дадзеным у аб’яве тэлефоне і паведамілі, што маюць інфармацыю, якая ўяўляе інтарэс для ўладальніка аўтамабіля. Спачатку яны патрабавалі даволі вялікую суму грошай, але потым дамовіліся расказаць, дзе аўтамабіль, за 100 долараў. Уладальнік машыны западозрыў, што маладыя людзі наогул нічога не ведаюць, а проста вымагаюць грошы, таму і звярнуўся ў міліцыю.

Юнак і дзяўчына былі затрыманы на прывакзальнай плошчы Брэста і насамрэч не мелі ніякай каштоўнай інфармацыі. Цяпер вырашаецца пытанне аб завядзенні крымінальнай справы за махлярства. Выкрадзены аўтамабіль дагэтуль не знойдзены.

**БелаПАН.**

## Інфармацыя пра тавар — на беларускай мове

На пасяджэнні навукова-тэхнічнай камісіі Дзяржстандарта быў зацверджаны новы стандарт Беларусі СТБ “Тавары нехарчовыя. Агульныя патрабаванні. Інфармацыя для спажыўца”, у якім замацавана палажэнне аб тым, што інфармацыя пра тавар даводзіцца да спажыўца на беларускай і рускай мовах.

Чыноўнікам камісіі Дзяржстандарта ўдалося зламаць стэрэатып, што ў краіне, дзе дзве дзяржаўныя мовы, не абавязкова жорстка рэгламентаваць выкарыстанне абедзвюх моў падчас афармлення тавараў.

На маю думку, такое рашэнне камісіі стала магчымым дзякуючы подпісам грамадзян пад патрабаваннем абавязаць вытворцаў выкарыстоўваць дзяржаўную беларускую мову ў афармленні тавараў. Мяркую, што ўзважаная і па-сапраўднаму дзяржаўная пазіцыя Дзяржстандарта паспрыяе ўсталяванню рэальнага двухмоўя на спажывецкім рынку.

На жаль, у другім стандарце СТБ “Тавары харчовыя. Агульныя патрабаванні. Інфармацыя для спажыўца”, які быў прыняты раней, выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў застаецца неабавязковым. Спадзяюся, што Дзяржстандарт унясе змены і ў гэты дакумент. Каб наблізіць гэты час, Таварыства беларускай мовы сабрала некалькі тысяч подпісаў грамадзян пад патрабаваннем выкарыстання беларускай мовы таваравытворцамі. Дадамо, што падпісныя бланкі працягваюць паступаць з розных куткоў Беларусі.

**Сяргей КРУЧКОЎ,**
**намеснік старшыні ГА “ТБМ імя Ф.Скарыны”.**

*Даверлівасць...*

**Фота IREX/ProMedia.**

## Новыя нумарныя знакі

Новыя знакі плануецца ўвесці са студзеня 2004 года. Яны будуць устанаўлівацца на зноў купленыя аўтамабілі альбо па жаданні ўладальнікаў транспартных сродкаў.

Нумарныя знакі будуць адзінымі для ўсіх катэгорый грамадзян. Асаблівымі адрозненнямі новых знакаў з сямю ступенямі абароны з’яўляюцца лічбавае абазначэнне вобласці і горада Мінска (сталіцы будзе прысвоена лічба “7"), а таксама выява дзяржаўнага сцяга.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Беларускі Дзед Мароз будзе жыць у Белавежскай пушчы

Галоўны беларускі Дзед Мароз будзе жыць у дзяржаўным нацыянальным парку “Белавежская пушча”.

Рэзідэнцыя размесціцца ў лесе, непадалёк ад паляны, дзе ўзімку падкармліваюць статак зуброў. Плануецца, што ў сані Дзеда Мароза будуць запрэжаны алені, якія жывуць у Белавежскай пушчы.

**БелаПАН.**

АБРАЗКІ

## Ударым касой па беспрацоўі

Пачуць звон малатка па касе ў цэнтры горада — сёння такая ж рэдкая з’ява, як і родную мову ў рыначным ці вулічным натоўпе. І ўсё ж пачуў яго, праходзячы міма прыватнага дома, ад якога да цэнтра горада — нейкіх дзвесце метраў. За высокім шчыльным плотам пачуваўся знаёмы з дзяцінства перастук малатка. Зазірнуў праз шчыліну ў агароджы, а ў двары чорнавалосая мілавідная дзяўчына адбівала на сталёвай “бабцы”, загнанай у невялікую калоду, касу.

Пад вечар убачыў яе каля школьнага стадыёна, дзе дзяўчына па-мужчынску размашыста касіла густую траву вакол яго. Пазнаёміліся. Беспрацоўная ўжо другі год. Звярталася ў Цэнтр занятасці, але там нічога не паабяцалі — у іх на ўліку стаіць звыш 1600 беспрацоўных і большасць — маладыя жанчыны.

Дзяўчына з маці трымаюць казу, вось і рыхтуе ёй на зіму сена, балазе трава сёлета добра ідзе ў рост паўсюль — толькі не лянуйся. Бо на адну матчыну пенсію не пражыць.

## З «рiднай мовi» — да скону дзён

У дзяцінстве, у 1932—1933 гады, бабуля Фядора перажыла на Украіне страшны голад, у іх вёсцы памерла каля паўтысячы чалавек, Фядору выратавалі ад смерці сваякі, бо бацькі не выжылі.

Дажываць свой век ёй давялося у адной са слуцкіх вёсак, з нявесткай-пенсіянеркай, удавой — пасля смерці мужа, былога марака-падводніка. Без пары дакanala яшчэ не старога чалавека атрыманая там павышаная доза абпраменьвання. А маці ўжо гадоў пятнаццаць шчыруе на градках, на зіму нявестка забірае яе ў сваю гарадскую кватэру. Такіх “чаўночных” бабуль сёння ў вёсках нямала.

Фядора носіць у душы яшчэ адну нязгасную любоў — да “рiднай мовi”. Не забыла яе, жывучы побач з браткамі-беларусамі, большасць якіх размаўляе на нягеглай “трасянцы”. Фядора-ўкраінка нібы дае ім усім урок: каб людзьмі звацца і гонар свой нацыянальны мець, трэба мову матчыну насіць у сэрцы да скону дзён.

## «Крынічка», дай вады напіцца — сваёй!

У дызельпоездзе Асіповічы—Салігорск зухаваты хлапец з кіпай газет абыходзіць вагоны, прапануючы “тавар” на выбар. Мне ў рукі трапіў свежы нумар бабруйскай “Крынічкі”на 16 старонках. І наклад неблагі — 8100 экземпляраў.

Стаў гартаць старонкі, а там усе матэрыялы, рэклама на адной мове — расійскай. Хоць бы, для блізіру, далі адну інфармацыю па-беларуску — а ні-ні! Дальбог, стала крыўдна за беларускіх журналістаў з рэгіянальнай газеты, якія адцураліся роднай мовы, пакінуўшы за ёю права заставацца толькі ў назве выдання і прозвішчах рэдактуры.

## Будзе помнік вязням генацыду

Аб ускрыцці на тэрыторыі 1-га ваеннага гарадка ў Слуцку могільнікаў з рэшткамі масавых пахаванняў у 1942—1943 гады вязняў нямецкага канцэнтрацыйнага лагера, што паміралі там ад голаду і хвароб або былі спалены жывымі, расказвалася ў “Народнай волі” ў нумары за 10 чэрвеня.

Паводле інфармацыі вядучага спецыяліста па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь А.А.Петрушэні, там загінула больш за 18 тысяч ваеннапалонных і грамадзянскага насельніцтва, прывезенага ў канцлагер з гарадоў Расіі.

Як стала вядома, для ўдакладнення абставін гібелі людзей была створана камісія на чале з першым намеснікам старшыні гарвыканкама С.Л.Алікевічам. У яе ўвайшлі прадстаўнікі ваенкамата, ваеннай пракуратуры, Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Абследаваўшы месцы раскопак, камісія прапанавала спыніць іх, а ў памяць аб загінуўшых вязнях паставіць помнік.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*г.Слуцк.*

## Сураж — горад пенсіянераў

Амаль ніхто з сёлетніх выпускнікоў сярэдняй школы гарадскога пасёлка Сураж Віцебскага раёна не застанецца жыць на радзіме, бо ўладкавацца на працу ў Суражы вельмі цяжка, калі не маеш пэўнай спецыяльнасці. Лясгас і два саўгасы — вось, уласна кажучы, і ўсе мясцовыя прадпрыемствы, дзе часам узнікае патрэба ў кадрах. Так што моладзь, як правіла, накіроўваецца ў пошуках шчасця ў Віцебск, Смаленск ды іншыя гарады Беларусі і Расіі.

Нямала ў Суражы і расіян, якія ўпадабалі маляўнічы пасёлак на беразе Заходняй Дзвіны пасля свайго выхаду на пенсію. Жыллё, пакінутае ў Расіі, гэтыя людзі здаюць у арэнду, атрымліваючы за гэта нядрэнныя, па беларускіх мерках, грошы, а за пенсіяй ездзяць у блізкі горад Веліж Смаленскай губерні. Расійскія пенсіі, абмененыя на беларускія грошы, дазваляюць перасяленцам жыць заможна.

Асабліва шмат у Суражы былых мурманчан, паўночным заробкам і пенсіям якіх беларусы могуць толькі пазайздросціць. Прыезджыя з Мурманска пабудавалі ў пасёлку адмысловыя катэджы, абзавяліся, па прыкладзе абарыгенаў, свойскай жывёлай і дажываюць свой век у згодзе з карэнным насельніцтвам і лагоднай, жыватворнай прыродай легендарных партызанскіх мясцін.

Адна сур’ёзная праблема турбуе і тутэйшых, і перасяленцаў: адсутнасць пастаяннага моста праз Заходнюю Дзвіну, якая падзяляе мястэчка накшталт міждзяржаўнай мяжы. Усе афіцыйныя ўстановы Суража размешчаны на левым беразе. Тут і пасялковы Савет, і школа, і паліклініка, і кантора лясгаса, і пажарная служба, і міліцыя.

Для тых суражан, якія жывуць на гэтым баку, такое суседства вельмі зручнае, а вось для астатніх водная перашкода — проста бяда. На правым беразе жыве трэцяя частка насельніцтва Суража, і кожны раз, як зарэчным трэба наведаць “цэнтр”, на дапамогу ім прыходзіць дапатопны паром.

Штогод рака бярэ даніну з чалавечай неасцярожнасці. Спяшаючыся на другі бераг, некаторыя тутэйшыя жыхары бязглузда шыбуюць па тонкім лёдзе, імчацца па хвалях на няўстойлівых лодках, а самыя адчайныя спрабуюць пераплыць Заходнюю Дзвіну самастойна.

На жаль, гэтыя спробы часам вядуць да трагедый, што пагаршае дэмаграфічную сітуацыю ў пасёлку, дзе і без таго практычна не засталося людзей працаздольнага ўзросту. Мясцовая статыстыка сведчыць, што пенсіянеры складаюць 80% тутэйшага насельніцтва, а смяротнасць у Суражы пераўзыходзіць нараджальнасць аж у 15 разоў, што з’яўляецца рэкордным паказчыкам для Беларусі, а магчыма, і для большай тэрыторыі свету.

Для таго каб палепшыць дэмаграфічную абстаноўку ў Суражы, трэба не так ужо і многа. Па-першае, вярнуць у пасёлак бальніцу, якая калісьці была пераведзена за 4 кіламетры ад пасёлка. Па-другое, пабудаваць мост праз раку. Пэўныя грошы на гэта сабралі б мясцовыя прадпрыемствы: лясгас, саўгасы, зарэчныя гаспадаркі.

Але для будаўніцтва патрэбны дзяржаўны штуршок: закласці і ў план добраўпарадкавання Суража суму, якой было б дастаткова на праект моста і пачатковую фазу работ па яго ўзвядзенні. Вырашыць гэтую праблему можа толькі аблвыканкам. Але, мяркуючы па ўсім, кіраўнікі вобласці вельмі даўно не завіталі ў славутыя партызанскія мясціны.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

